**№ 96 (4143)**

9 снежня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

«Народная Воля»
в Twitter www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



Эдуард ХАНОК,
народный артист Беларуси, композитор:

## «Я уже выписал «Народную Волю» на первое полугодие 2017 года!»

– Мне нравится газета "Народная Воля", потому что она помогает ощущать пульс жизни. На ее страницах очень много интересных материалов, которые вызывают широкий общественный резонанс и обсуждаются не только чиновниками, но и простыми людьми. С чем-то можно соглашаться, с чем-то – нет. Но я считаю, чем больше разных мнений, тем лучше! Только так можно составить объективную картину всего, что происходит...

НАДВОР'Е

## То снег, то дождж

У **суботу 10 снежня** на большай частцы тэрыторыі краіны пройдуць кароткачасовыя ападкі – мокры снег, дождж. Будзе цёпла, да +7ºС.

У **нядзелю 11 снежня** надвор'е істотна не зменіцца. Толькі на паўночным усходзе стане халадней – там тэмпература паветра панізіцца да -5ºС. У асобных раёнах чакаецца слабы галалёд, на дарогах галалёдзіца.

Ужо ў панядзелак ноччу па паўночным усходзе пры праясненнях паветра пахаладае да -9ºС.

ДАТА

# 25 гадоў таму яны паставілі апошнюю кропку ў існаванні Савецкай імперыі



Дагавор паміж Беларуссю, Украінай і Расіяй, падпісаны ў Віскулях, спыняў існаванне СССР як *«суб'екта міжнароднага права і геапалітычнай рэальнасці»*.

Пад гэтым гістарычным дакументам паставілі свае подпісы старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **Станіслаў Шушкевіч,** тагачасны прэм'ер-міністр Беларусі **Вячаслаў Кебіч,** прэзідэнт Расіі **Барыс Ельцын,** Дзяржсакратар РСФСР **Генадзь Бурбуліс,** прэзідэнт Украіны **Леанід Краўчук, прэм'ер-міністр Украіны Вітольд Фокін.**

(Працяг тэмы на 2-й стар.)

## 10 декабря – День прав человека

В этот день в 1948 году Генеральная Ассамблея ООН приняла Всеобщую декларацию прав человека. Вот некоторые ее статьи.

### Статья 3

Каждый человек имеет право на жизнь, на свободу и на личную неприкосновенность.

### Статья 5

Никто не должен подвергаться пыткам или жестоким, бесчеловечным или унижающим его достоинство обращению и наказанию.

### Статья 7

Все люди равны перед законом и имеют право, без всякого различия, на равную защиту закона. Все люди имеют право на равную защиту от какой бы то ни было дискриминации, нарушающей настоящую Декларацию, и от какого бы то ни было подстрекательства к такой дискриминации.

### Статья 9

Никто не может быть подвергнут произвольному аресту, задержанию или изгнанию.

### Статья 10

Каждый человек, для определения его прав и обязанностей и для установления обоснованности предъявленного ему уголовного обвинения имеет право на основе полного равенства на то, чтобы его дело было рассмотрено гласно и с соблюдением всех требований справедливости независимым и беспристрастным судом.

### Статья 12

Никто не может подвергаться произвольному вмешательству в его личную и семейную жизнь, произвольным посягательствам на неприкосновенность его жилища, тайну его корреспонденции или на его честь и репутацию. Каждый человек имеет право на защиту закона от такого вмешательства или таких посягательств.

ПРЕЗЕНТАЦИЯ

## «Клуб Алексиевич» открылся...

В среду вечером, 7 декабря, состоялось первое заседание интеллектуального клуба нобелевского лауреата Светланы Алексиевич. Встреча продолжалась около двух с половиной часов. Попасть на нее было трудно, заявку сделали примерно 600 человек, но зал в галерее TUT.BY смог вместить только 200. На будущее, сказала Светлана Александровна, надо все-таки искать другое помещение.

Светлана Алексиевич объяснила, почему на первую встречу пригласила именно Ольгу Седакову, которая известна как прозаик, поэт и религиозный деятель. Во-первых, потому что они давно дружат. А, во-вторых, как сказала Алексиевич, «у Оли есть некая человеческая чистота, очень тонкая мембрана в слуховом аппарате». «Когда я жила в эмиграции, утром я часто читала Олины интервью, – призналась Светлана Александровна. – И я понимала, что происходит в России и на постсоветском пространстве. Понимала, что происходит с нами, почему мы живем с ощущением поражения, которое разъединяет людей и делает их одинокими».

Ольга Седакова сконцентрировала свое выступление на теме добра и зла.

На мероприятии в числе присутствовавших были замечены экс-кандидат в президенты Александр Милинкевич, философ и литератор Игорь Бабков, писатель и историк Владимир Орлов, белорусские поэты Андрей Хаданович, Дмитрий Строцев, Алесь Липай, руководитель Центра белорусской драматургии Александр Марченко, посол Швеции в Беларуси Мартин Оберг, представитель посольства Германии Аня Лутер, проректор Европейского гуманитарного университета Александр Колбаско, искусствовед Таня Бембель, композитор Виктор Копытько, пианист Юрий Блинов и многие другие известные люди.

В конце встречи гости приобретали книги Седаковой и Алексиевич и тут же получали автографы авторов.

**Виктория ДРОЗД.**

АКЦЫЯ

## Бел-чырвона-белыя сцягі на праспекце



Учора раніцай актывісты зарэгістраванага ў Чэхіі «Маладога фронту» развесілі больш за два дзясяткі бел-чырвона-белых сцягоў на праспекце Незалежнасці ў Мінску. Гэтую акцыю яны прымеркавалі да 25-й гадавіны распаду СССР, які завяршыў сваё існаванне Віскулёўскімі пагадненнямі.

*«Мы вывесілі на праспекце 23 сцягі, а яшчэ два мая дачка Мара вывесіла дома. Разам атрымалася 25 сцягоў – у гонар 25-годдзя распаду СССР. Гэтай акцыяй мы адзначылі 25 гадоў развалу імперыі зла. Каб жыхары і госці сталіцы, едучы па горадзе, натхняліся і радаваліся, гледзячы, як бел-чырвона-белыя сцягі лунаюць уздоўж праспекта»,* – сказаў **Зміцер Дашкевіч.**

